

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Вечерний Минск

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995
ЛЮТЫ
1
СЕРАДА
№ 19/947
Цана 100 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

### ДАВАЙЦЕ СУПАКОІМСЯ І СЯДЗЕМ ЗА «КРУГЛЫ СТОЛ»

Аргкамітэт Нацыянальнага клуба «Усход-Захад», узначалены старшынёй праўлення Нацыянальнага банка Станіславам Багданкевічам, зацвердзіў асноўныя прынцыпы Хартыі «Да грамадзянскага міру, згоды і стабільнасці». У выпадку прыняцця дакумента на ўстаноўчым сходзе, што адбудзецца 3 лютага, Нацыянальны клуб, аб сваім удзеле ў якім заявілі многія вядомыя палітыкі і прадстаўнікі бізнесу Беларусі, мае намер звярнуцца да кіраўнікоў усіх галін улады ў рэспубліцы, палітычных партый і рухаў, грамадскіх арганізацый з ініцыятывай неадкладнага правядзення «круглага стала». Яго галоўным вынікам, на думку аргкамітэта, павінна стаць падпісанне Нацыянальнай хартыі «Да грамадзянскага міру, згоды і стабільнасці», што змацоўвае абавязацельствы ўсіх бакоў за падтрыманне канстытуцыйнага парадку і законнасці ў краіне і прадухіленне эскалацыі напружанасці напярэдадні парламенцкіх выбараў. Выбарчая кампанія, лічаць члены аргкамітэта, з'явіцца вельмі сур'ёзным выпрабаваннем на дэмакратычную сталасць і грамадзянскую адказнасць не толькі для цяперашняй прэзідэнцкай улады, але і для палітычнай апазіцыі. Настаў час перайсці ад канфрантацыі да дыялогу і пошуку ўзаемаразумення.

**3 февраля в горисполкоме (пр. Ф.Скорины, 8, к. 321) состоится встреча с представителями политических партий и общественных объединений города по вопросам подготовки и проведения выборов депутатов Верховного Совета Республики Беларусь. Начало в 14.00. Контактные телефоны: 20-37-79 и 20-90-60.**

**Пресс–центр горсовета.**

### ЯК АПАЗНАЦЬ ЗЛАЧЫНЦУ

Сучасным метадам выяўлення і расследавання эканамічных злачынстваў паслужыць семінар, што адкрыўся 30 студзеня ў Мінску. Яго арганізатарам выступіла сакрэтная служба Злучаных Штатаў Амерыкі — федэральная ўстанова, якая кантралюе выкананне заканадаўства аб падробліванні валюты ЗША і расследуе такія эканамічныя злачынствы, як «адмыванне» грошай, махлярства з крэдытнымі карткамі і электроннымі банкаўскімі пераводамі.

У ролі выкладчыкаў на семінары выступяць амерыканскія эксперты. Асноўнай тэмай курса, а заняткі пройдуць на працягу тыдня, будзе выяўленне фальшывых грашовых купюр ЗША і прапануемыя змяненні ў іх дызайне, прызначаныя максімальна ўскладніць падробку. Семінар — гэта частка актывізацыі намаганняў праваахоўных устаноў ЗША па наладжванню супрацоўніцтва з калегамі Беларусі і іншых краін СНД. Ёсць надзея, што такая вучоба дапаможа работнікам праваахоўных органаў краін Садружнасці ў набыцці ведаў і метадаў барацьбы са злачынцамі, якія дзейнічаюць усё больш дасканала і часта за межамі дзяржаў пражывання.

### ЗАБАСТОЎКІ НЕ БУДЗЕ

Як паведамлялася ўжо, вадзіцелі гарадскіх аўтобусаў прадпрыемства «Мінскпасажыраўтатранс» пасля праведзенай у снежні трохгадзіннай забастоўкі па-ранейшаму пакідалі за сабой права на аналагічную акцыю, але ўжо аднадзённую. Спачатку гэтым днём называлася 31 студзеня. Але напярэдадні вызначанай даты ў вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкама паведамілі, што рознагалоссі паміж прафкамам «Мінскпасажыраўтатранса» і гарадскімі ўладамі ўдалося ўрэгуляваць. Адбылося гэта 25 студзеня на пасяджэнні пагаджальнай камісіі. Абодва бакі выпрацавалі адзіныя рашэнні, якія іх задавальняюць. Імі прадугледжаны канкрэтныя формы разлікаў за заказаную і выкананую транспартную работу, сістэму аплаты працы вадзіцеляў. Усё гэта грунтуецца на дзеючым заканадаўстве, нарматыўных дакументах і заключаных калектыўных дагаворах.

**Таццяна СМІРНОВА.**

### *НАЗВАНА НОВАЯ ДАТА*

Як паведамілі ў прэс-цэнтры МУС, каардынацыйная нарада міністраў унутраных спраў краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў, якую планавалася правесці ў Мінску 8-11 лютага, пераносіцца на 14-19 лютага. Новая дата назначана ў сувязі з тым, што 10 лютага ў Алма-Аце адбудзецца сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў СНД.

### ДА НАС ЕДЗЕ ІВАН РЫБКІН

3-4 лютага старшыня Дзяржаўнай Думы Расіі Іван Рыбкін наведае Беларусь з афіцыйным візітам па запрашэнню спікера беларускага парламента Мечыслава Грыба.

Падчас знаходжання ў Мінску ён плануе сустрэцца з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, выканаўчым сакратаром СНД Іванам Каратчэнем, прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром.

Расійская парламенцкая дэлегацыя наведае таксама пасяджэнне сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі.

Падчас перамоў Івана Рыбкіна з Мечыславам Грыбам будуць абмеркаваны пытанні міжпарламенцкага супрацоўніцтва Расіі і Беларусі.

**Андрэй СЕРАДА.**

### *БЕЛАРУСКАЕ ПІВА — У БЛЯШАНКАХ*

Магчыма, ужо гэтым летам на прылаўках магазінаў беларускай сталіцы з'явіцца бляшаначнае піва айчыннай вытворчасці.

Перагаворы аб пастаўцы мінскаму арэнднаму прадпрыемству «Крыніца» бляшаначнай упакоўкі для янтарнага напітку ўжо вядуцца з адной з польскіх фірм. Піўная бляшанка хоць і не падлягае паўторнаму выкарыстанню, але каштуе значна танней за шкляную бутэльку, менш важыць і мае прэстыжны выгляд. З попытам на беларускае бляшаначнае піва праблем не будзе.

**Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ.**

### ЛЁД АКАЗАЎСЯ ЗАНАДТА ТОНКІМ

Пасля адлігі і зімовых дажджоў учора тэмпература паветра ўпала да мінус трох градусаў. Тратуары і дарогі горада за адну ноч пакрыліся тонкім слоем лёду. Здавалася б, магла паўтарыцца сітуацыя знакамітага галалёду пачатку зімы, аднак гэтым разам усё абышлося: лёд аказаўся занадта тонкім.

Як паведаміў дзяжурны гарадскога ўпраўлення ДАІ, значнага ўплыву на сітуацыю на вуліцах слабая галалёдзіца не аказала. Колькасць дарожна-транспартных здарэнняў не павялічылася, цяжкіх выпадкаў не было. Не адзначана і ўсплёску траўматызму ў службах «хуткай дапамогі».

Кіраўнік трэста «Гардармеханізацыя» І.Гурыновіч падкрэсліў, што падначаленая яму служба працавала ў звычайным рэжыме. «Гэта для нас не галалёд!» — казаў галоўны дарожнік сталіцы.

Адзначым, што з самага ранку на дарогі Мінска выйшла спецтэхніка, пасыпаючы праезную частку сумессю пяску і солі. Прынамсі, быў старанна апрацаваны праспект Скарыны і прылягаючыя да яго вуліцы.

### ☐ КОРАТКА

Як паведамілі ў Міністэрстве эканомікі, на разглядзе ў Кабінеце міністраў Беларусі знаходзіцца пералік вострадэфіцытных тавараў і прадукцыі, не абкладзенай у 1995 годзе падаткам на дабаўленую вартасць пры рэалізацыі першым прадаўцом, які завёз іх з-за межаў рэспублікі.

У пераліку — каля 60 найменняў тавараў, сярод якіх — нафта, газ, медыцынскае абсталяванне, дзіцячае харчаванне, алей, цукар, цытрусавыя і іншыя.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 1 февраля 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США | | Немецкая марка | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | покупка | продажа | покупка | продажа | покупка | продажа |
| КОМПЛЕКС (за рос. рубли) | 11250* 4140 | 11620 4311 | 7300* | 7657 | 2.66 | 2.75 |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11300* | 11580 | 7315* | 7650 | 2.4 | 2.8 |
| БЕЛАРУСБАНК | 11680 11700** | 12120* | 7570* | --- | 2.76* | 3.09* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11350* | 11700* | 7400* | 7700* | 2.4 | 2.8 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11300* | 11620 | 7350* | 7650 | 2.58 | 2.78 |
| ПРИОРБАНК | 11300 11550** | 11650 | 7520 7650** | 7750 | 2.3 | 2.85 |
| ПРОФБАНК | 11350 11450** | 11650 11750** | 7450 7500** | 7700 7750** | 2.65 2.75** | 3 3.1** |
| СБЕРБАНК | 11250 | 11600 | 7250 | 7500 | 2.45 | 2.75 |
| ОЛИМП | 11280* | 11640 11710** | 7358* | 7670 7716** | 2.65* | 2.75 2.8** |
| ДУКАТ | 11250* | 11600 | 7200* | 7600 | 2.3 | --- |
| финансовая компания СОЛИД | 11200 | 11500 | 7250 | 7500 | 2.5 | 2.75 |
| МИЛАВИЦА филиал АКБ ДУКАТ | 11400* | 11720* | 7100 | 7550 | 2.2 | 2.8 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | 11150 | 11650 | 7050 | 7600 | --- | --- |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор.дир.) | 11100 | 11550 | 7300 | 7500 | 2.5 | 2.8 |
| ВЕЛЕС филиал АКБ ДУКАТ | 11200 11450** | 11650 | 7300 7500** | 7650 | --- | --- |
| ПОИСК | 11350 | 11700 | 7100 | 7600 | 2.6 | 2.75 |
| Филиал N 1 банка "ОЛИМП" | 11300 11356** | 11600 | 7200 7236** | 7600 | --- | --- |
| ЕВРОПЕЙСКИЙ | 11250 11500** | 11550 11800** | 7200 7400** | 7400 7500** | 2.6 2.7* | 2.7 2.8* |
| ТРАНЗИТНЫЙ | 11200 11550** | 11550 11700** | 7200 7400** | 7700 7750** | 2.42 2.5** | 2.75 2.8** |
| БЕЛБАЛТИЯ | 11350 | 11600 | 7200 | 7550 | 2.6 | 2.8 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 11000 | 11500 | 7100 | 7550 | 2.3 | 2.8 |
| МАГНАТБАНК, ф-л 001 | 10600* | 11600* | 7200* | 7450* | 2.5 | 2.7* |
| ГУБИСС-РЕСУРС (за рос.руб.) | 11300 4000 | 11500 4300 | 7200 | 7700 | 2.6 | 3 |

* -- возможна операция за наличный и безналичный расчет

** -- операция проводится только по безналичному расчету

**В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.**

**Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".**

| | Доллар США | Немецкая марка | Российский рубль |
|---|---|---|---|
| ЦЕНТРОБАНК РОССИИ | 4048 | 2693.28 | 10 BRB 3.65 |
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б/н расчетов) | 11670.00 | 7761.37 | 2.8 |

### ☐ ПЕРЕКРЕСТОК

### СКОЛЬКО СТОИТ РЕМОНТ РАДИОПРИЕМНИКА?

5 декабря в конце рабочего дня водитель КамАЗа И.Я.Горностай возвращался из рейса с грузом фруктов. На проспекте Дзержинского он вынужден был остановиться, чтобы устранить техническую неисправность. Это заняло у него не более пяти минут. Когда Иван Ярославович сел за руль автомашины, буквально тут же он ощутил удар в заднюю часть фургона. Выскочив на дорогу, Горностай увидел, что, уткнувшись погнутой кабиной, обломав при этом переднюю правую полуось вместе с колесом, его фургон сзади «обнял» трактор МТЗ-80. В первую очередь водитель КамАЗа вытащил через разбитое лобовое стекло тракториста, который был пьян и едва держался на ногах. А затем вызвал «скорую помощь» и ГАИ.

Позже тракторист Н.В.Старовойтов в своем объяснении написал, что выпил на работе 200 граммов вина и сел за руль трактора, чтобы забрать из ремонтной мастерской радиоприемник.

Действие винных паров, безусловно, способствовало тому, что произошло дальше: вместо ремонтной мастерской — лечебное учреждение, вместо отремонтированного приемника — исковерканный автомобиль.

Пословица гласит: «Кто вино любит, тот сам себя губит». Придется Старовойтову не только уплатить солидную сумму за ремонт, но и, возможно, расстаться с работой.

**Владимир ТРОФИМЕНКО, сотрудник ГАИ УВД г.Минска.**

МЯСЦОВЫ ЧАС

## БЕЗ СУЧКА І ЗАДЗІРЫНКІ

### прайшло прызначэнне прадстаўніка ўладнай вертыкалі ў Кастрычніцкім раёне сталіцы

**Кастрычніцкі райвыканкам узначаліў Вячаслаў Абрамаў, які да ўчарашняга дня і займаў гэтую пасаду, з'яўляючыся адначасова старшынёй райсавета. Дэпутаты аднагалосна падтрымалі прапанаваную старшынёй Мінгарвыканкама Уладзімірам Ярмошыным кандыдатуру. Больш таго, у адрас спадара Абрамава не прагучала ніводнага дрэннага слова, ніводнай крытычнай заўвагі. Мікалай Казакевіч, які першым выйшаў на трыбуну, каб падтрымаць раённага лідэра, адразу паставіў пытанне рубам: дыскусія, маўляў, залішняя, з кандыдатурай згодны, ведаем чалавека ў працы, таму давайце галасаваць.**

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, «ДВ».**

На пытанне, як ён сам успрымае такое аднадушша, Вячаслаў Фёдаравіч прызнаўся: з задавальненнем, але і з разуменнем адказнасці. Бо поўны давер яму аказаў і старшыня гарвыканкама (кандыдатура, дарэчы, узгаднялася з прэзідэнтам), і дэпутацкі раённы корпус. «Мо, было б лепей, каб крыху накідалі каменьчыкаў у мой агарод?» — усміхнуўся ён.

Сваё прызначэнне ні ў якім разе не расцэньвае як само сабой зразумелае. Хваляваўся, хацелася дакладна ведаць, як цябе ацэньваюць людзі. Тым больш, што чатыры гады назад, калі на альтэрнатыўнай аснове абіраўся старшынёй гэтага ж райсавета, галасы дэпутатаў падзяліліся.

І вось вынік — доўгія гады працы Абрамава ў раёне ацэнены належным чынам. І мэр сталіцы, і іншыя прамоўцы адзначалі яго вопыт, кампетэнтнасць, высокія арганізатарскія здольнасці, набытыя падчас працы інжынерам-будаўніком і на кіруючых партыйна-савецкіх пасадах. Сам жа раённы кіраўнік паведаў, што імкнуўся ў межах магчымага рабіць усё, каб у раёне зладжана працавала жыллёва-камунальная гаспадарка, умацоўвалася матэрыяльна-тэхнічная база бальніц, паліклінік, школ, устаноў культуры. Сацыяльная сфера была і застаецца найпершым клопатам раённых улад, не раз падкрэсліваў ён. Апошнім часам удалося распачаць будаўніцтва дзіцячай паліклінікі, сярэдняй школы, дзякуючы падтрымцы гарадскіх улад, вось-вось пачнецца будоўля стаматалагічнай паліклінікі — яна патрэбна, як паветра! Зроблены рэальныя захады для ўмацавання базы ЖРЭА і РБУ.

Аб чым больш за ўсё сёння клапоціцца кіраўнік раёна? Задача-мінімум, зазначыў ён, — завяршыць капрамонт усіх запланаваных аб'ектаў, а таксама рамонт даху ў трыццаці старых дамах 68-72-х гадоў збудавання — людзі ідуць і ідуць са скаргамі! Пільнай увагі патрабуе па-ранейшаму работа камунальных службаў. Праўда, адзначыў ён, і тут справа зрушылася — упершыню зроблены капрамонт васьмі вуліц раёна, агульнай працягласцю 15 кіламетраў. Ламае кіраўнік і галаву, дзе ўзяць грошы для будаўніцтва дома інвалідаў, зямля пад які ўжо адведзена.

Адным словам, канстатаваў Вячаслаў Фёдаравіч, ледзь не ўсё зараз упіраецца ў сродкі. Таму з такім нецярпеннем чакаецца прыняцце гарадскога бюджэту, і ўсё ў які раз зноў і зноў пралічваецца.

...Павіншаваўшы спадара Абрамава з прызначэннем, мы запыталіся ў яго: «З чаго пачнецца ваш новы працоўны дзень?» У адказ прагучала:

-- Напачатку зоймемся фінансавымі разлікамі. А потым я хацеў бы яшчэ і яшчэ раз аб усім творча падумаць, усё належным чынам асэнсаваць. Цяжкасцей, зразумела, сёння хоць адбаўляй. Але маім галоўным прынцыпам у жыцці быў і застаецца наступны: плённа працаваць, а не ствараць дадатковыя праблемы.

ДЗЯРЖАЎНЫ АЛІМП

## ПЕРАЦЯГВАННЕ КАНАТА ПРАЦЯГВАЕЦЦА?

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, «ДВ».**

Учарашні працоўны дзень для парламентарыяў можна было б лічыць звычайным, калі б не ўдалося прыняць рашэнне, якое, несумненна, набудзе далейшы рэзананс.

Пасля «Рознага», у якім, дарэчы, узнімаліся балючыя надзённыя праблемы, дэпутаты вярнуліся да паўторнага абмеркавання Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь». Нагадаем: гэты законапраект быў прыняты 21 снежня мінулага года. Але прэзідэнт Беларусі, угледзеўшы ў новаспечаным дакуменце занадта шмат ільгот і прывілей для дэпутатаў, катэгарычна адмовіўся яго зацвярджаць. Прааналізаваўшы законапраект і ўнёсшы свае папраўкі, кіраўнік дзяржавы адправіў яго на чарговы разгляд парламента.

Большасць прамоўцаў настойліва імкнуліся ўпэўніць парламентарыяў адхіліць пярэчанні прэзідэнта і прагаласаваць за прыняты закон. На думку тых, хто закідваў слова за сваё дзецішча, гэтыя пярэчанні беспадстаўныя, бо размова ў законе ідзе не пра льготы, а пра сацыяльную абарону дэпутатаў. І як эмацыянальна заўважыла Зінаіда Пянькова, «дэпутатаў трэба абараніць што б там ні было!»

«Закон нікуды не варты!» — у сваю чаргу паставілі пытанне рубам прадстаўнікі парламенцкай апазіцыі. Яшчэ выступаючы ў «Розным», дэпутат Папкоў ад імя БНФ выказаў пратэст супраць ільгот, якія сабе спрабуюць усталяваць і ўрад, і адміністрацыя прэзідэнта, і дэпутаты. З якой ласкі гэта рабіць, запытаўся прамоўца, калі дэпутаты таксама павінны ў сённяшнім бядотным становішчы народа? З аналагічнай заявай выступіў ад імя БСДГ і дэпутат Алег Трусаў. Адзінай ільготай, на яго думку, у будучых парламентарыяў павінен быць нармальны заробак.

Разумнае выйсце з гэтай сітуацыі падказаў Станіслаў Шушкевіч. Ён прапанаваў пацвердзіць прыняты Закон «Аб Вярхоўным Савеце» канстытуцыйнай большасцю, а праз пэўны час разгледзець на бягучай сесіі папраўкі і змяненні да яго. Мечыслаў Грыб паставіў прапанову на галасаванне. Дэпутацкая большасць — 232-а галасамі — пацвердзіла раней прынятае рашэнне па артыкулах закона «Аб Вярхоўным Савеце», па якіх былі зроблены папраўкі прэзідэнтам, а таксама прыняла закон цалкам. Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву даручана ўнесці змяненні і дапаўненні ў закон з улікам крытычных заўваг і прапаноў парламентарыяў. Так што да гэтага заканадаўчага акта давядзецца яшчэ вярнуцца.

З прапановай надрукаваць Закон «Аб Вярхоўным Савеце» выступіў дэпутат Лявон Здановіч, каб, казаў ён, людзі ведалі, што больш непакоіць прэзідэнта — ільготы, якія атрымалі дэпутаты, ці тыя прынцыпы, што закладзены ў артыкулах дакумента. Напрыклад, прэзідэнт прапанаваў выключыць другую частку чацвёртага артыкула, дзе гаворыцца, што «Вярхоўны Савет з'яўляецца гарантам замацаваных у Канстытуцыі, законах і міжнародных абавязацельствах дзяржавы правоў і свабод грамадзян Беларусі, арганізуе кантроль за іх выкананнем. Вярхоўны Савет непасрэдна і праз створаныя ім органы ажыццяўляе кантроль за захаваннем правоў і свабод чалавека». Перацягванне каната паміж заканадаўчай і выканаўчай уладай працягваецца?

ЭХО СОБЫТИЯ



Торжественное заседание, посвященное Дню белорусской науки, состоялось недавно в Минске.

**НА СНИМКАХ: во время заседания; перед собравшимися выступает министр образования и науки республики Василий СТРАЖЕВ.**

**Фото Евгения КОЗЮЛИ, БЕЛИНФОРМ.**

НАВІНЫ СПОРТУ

**БІЯТЛОН.** Завяршыўся трэці этап розыгрышу Кубка свету, які праходзіў у германскім горадзе Оберхофе. Нагадаем, што цяпер, згодна з прынятым Міжнароднай федэрацыяй біятлона палажэннем аб фінансавым забеспячэнні спартсменаў, страляючыя лыжнікі трацяць свае сілы недарэмна. Але для гэтага неабходна зарабляць адпаведныя ачкі. Пакуль з беларускіх спартсменаў бліжэй за ўсіх да запаветнай мэты знаходзіцца ўладальніца Кубка свету мінулага сезона наша Святлана Парамыгіна. У асабістым заліку яна займае трэцяе месца. Сярод мужчын трынаццатая пазіцыя ў Алега Рыжанкова. Усяго ў спаборніцтвах удзельнічала каля ста спартсменаў.

Чацвёрты этап таксама пройдзе ў Германіі ў горадзе Рупальдзінгу.

**БЕЛІНФАРМ.**

ГРАМАДА

## ЗАКОН ПАВІНЕН ДЗЕЙНІЧАЦЬ, БО ГЭТА* — ЗАКОН

**Максім ГРЭК, «ДВ».**

**Учора ў Доме літаратара адбылося пасяджэнне «круглага стала», прысвечанага пятым угодкам з дня прыняцця Вярхоўным Саветам краіны Закона аб мовах. Акцыю ладзіла Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны з удзелам камісій Вярхоўнага Савета, прадстаўнікоў шэрагу міністэрстваў і ведамстваў, грамадскіх арганізацый.**

Адкрываючы пасяджэнне, старшыня ТБМ, старшыня парламенцкай камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны прафесар Ніл Гілевіч адзначыў, што мэтай правядзення «круглага стала» ставіцца высветліць сітуацыю, як выконваецца Закон, і ўнесці прапановы для кіраўніцтва краіны, а таксама ўявіць сабе, што рабіць, як працаваць лепей і больш эфектыўна ў справе безумоўнага выканання Закона. «Закон павінен дзейнічаць ва ўсіх сферах нашага грамадства і нашага жыцця», — падкрэсліў прамоўца.

Выступленні падчас «круглага стала» можна дакладна размежаваць па двух палюсах — дзяржаўныя чыноўнікі абараняліся, прадстаўнікі грамадскасці атакавалі.

Зрэшты, параўнайце самі.

Першы намеснік міністра адукацыі Генадзь Пятроўскі сцвярджаў, што пазіцыя міністэрства відавочная — беларуская мова мусіць быць фундаментам адукацыйнай сістэмы. Прыводзіў лічбы: у краіне 4859 школ, з іх 64,6 працэнта з беларускай мовай навучання, 30,5 — з дзвюма, 4,9 працэнта — на рускай.

А прадстаўнік Бацькоўскага камітэта вучняў беларускіх школ Алесь Шамак казаў пра тое, што з 1,5 мільёна школьнікаў Беларусі толькі 308 тысяч вучацца па-беларуску. У сталіцы — ніводнай беларускай школы. Сёлета будзе 13 тысяч выпускнікоў беларускіх школ, якім няма дзе прадоўжыць адукацыю па-беларуску. Акрамя, як у філалогію, падацца ім няма куды — закрыты шлях у эканамісты, юрысты, палітолагі і г.д. У краіне няма ніводнага нацыянальнага універсітэта. Такім чынам адбываецца так, што адвольны выбар мовы навучання на Беларусі гарантуецца каму заўгодна, толькі не беларусу.

Пагадзіцеся, погляд на адну і тую ж праблему аказаўся абсалютна супрацьлеглым.

З гэтай сістэмы выпала, бадай, толькі выступленне міністра працы Аляксандра Саснова, які распавёў пра рэальныя практычныя захады, якія робяцца ў яго ведамстве па выкананню Закона аб мовах. Спадар Сасноў, дарэчы, аказаўся адзіным міністрам, які знайшоў час для ўдзелу ў «круглым стале».

Ад прадстаўніка міністэрства ўнутраных спраў прысутныя пачулі запэўніванні, што з наступнага года справаводства ў органах МУС будзе пераведзена на беларускую мову.

Удзельнікі «круглага стала», а сярод іх былі такія вядомыя ў краіне людзі, як прафесар Анатоль Грыцкевіч, прафесар Юры Хадыка, Ганна Сурмач, намеснік старшыні ТБМ Зміцер Санько і іншыя, адзначалі, што рычагі ўздзеяння на дзяржаўных чыноўнікаў у справе выканання Закона аб мовах ёсць. Гэта, вядома, сам Закон, а таксама Канстытуцыя і нацыянальная праграма беларусізацыі. Іншая справа — канкрэтныя захады, якія паспрыялі б найхутчэйшай рэалізацыі патрабаванняў Закона. Сярод іх найчасцей называліся наступныя: неадкладная беларусізацыя вышэйшай школы, у прыватнасці, увядзенне навучання на беларускай мове ўжо ў гэтым годзе на першых курсах усіх ВНУ і стварэнне нацыянальнага універсітэта на базе БДУ; рэфармаванне правапісу беларускай мовы; тэрміновы пераклад лепшых узораў сусветнай мастацкай і тэхнічнай літаратуры на беларускую мову; паскарэнне выдання якасных падручнікаў. Неаднаразова гучала патрабаванне рашуча называць імёны канкрэтных чыноўнікаў, якія сабатуюць ці тармозяць працэс выканання Закона. Такія людзі павінны адказваць па закону, вызваляючы свае месцы для больш здатных і законапаслухмяных.

**«Круглы стол» не пакінуў уражання «чарговага мерапрыемства». Людзі, якія сабраліся ў Доме літаратара, ведаюць, што ім рабіць і як рабіць. Яны будуць настойліва і рашуча дамагацца плёну беларусізацыі. Бо за імі — Закон.**

**Як адзначыла Ганна Сурмач, «мы прыйшлі да кульмінацыі ў змаганні за беларускую дзяржаўнасць — і гэта тычыцца сітуацыі не толькі моўнай, але і палітычнай».**

**Лепш, бадай, і не скажаш.**

В МИНГОРИСПОЛКОМЕ

## В ЗАМКНУТОМ КРУГЕ

**Тамара МАРКИНА, «ДВ».**

Как огромный монстр, наш город ежедневно поглощает тысячи тонн воды — артезианской, наземных источников и... столько же отдает назад в виде сточных вод. То, что мы выпиваем из своих чашек да чайников — мизер в сравнении с тем, сколько необходимо воды городским предприятиям. На одном из последних заседаний Мингорисполкома были утверждены лимиты водопотребления и сброса сточных вод на 1995 год. Лимиты забора питьевой воды из подземных источников составляют 214,4 млн. куб.м, из поверхностных — 109,3 млн. куб.м, забор технической воды Вилейско-Минской системы для нужд предприятий — 30,0 млн. куб.м, лимиты сброса нормативно очищенных сточных вод — 244,550 млн. куб.м, недостаточно очищенных — 58,45 млн. куб.м.

За ПО «Минскводоканал» остается право устанавливать лимиты водопотребления и сброса новым предприятиям, а также изменять принятые нормы, если у ПО возникнут веские причины.

В том числе лидерам по плановым сбросам сточных вод в канализации — МПКО «Большевик» — 250.500 куб.м в месяц, ПО «БелавтоМАЗ» — 350.00 куб.м, тракторный — 275.000 куб.м.

## ВАМ НУЖЕН ТЕЛЕФОН?

**Т. ВАЛЕРЬЯНОВА.**

Не за горами полная телефонизация города Минска. Городскими властями принято решение разрешить Минской городской телефонной сети привлекать денежные средства юридических и физических лиц. Они будут направляться на приобретение оборудования связи, выполнения строительно-монтажных работ. Сверх меры с желающих установить телефон в квартире либо офисе брать не будут. Появление новой телефонной точки в квартире городу обходится в 300-400 долларов, в эту сумму и обойдется получение телефона.

Чем больше толстосумов захотят приобрести телефон, тем лучше дела пойдут у очередников, не имеющих таких денег, но не менее нуждающихся в нем. Сегодня на очереди около 80 тысяч человек. В минувшем году было установлено 11 тысяч новых телефонов. Так как установка их по очереди — социально защищающая мера (очередники платят лишь определенную сумму затрат), привлечение денег финансово сильных клиентов — разумный рыночный шаг.

Кстати, Минская городская телефонная сеть уже практиковала такое привлечение средств. Однако желающие установить телефон могли рассчитывать на успех лишь на небольших объектах. Теперь, как говорится, были бы деньги, а остановки за Минской городской сетью не будет.

Дано добро на привлечение к строительству телефонных сетей города различных коммерческих предприятий, у которых в сейфе лицензии Министерства связи и информатики на право проведения таких работ.

Предпочтение в строительстве новых телефонных станций, линий и, соответственно, конкретных точек будет отдано новым микрорайонам — Малиновке, Сухарево, Курасовщине, Уручью, Степянке, Ангарской.

